# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 31 (110) Нядзеля 3 жніўня 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# Хвальшаваньне ачавідных фактаў

Група расейцаў ад імені г. зв. «Камітэту гістарычнай праўды аб Расеі» нядаўна зьвярнулася да прэзыдэнта «Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі» адмірала Кэрка з адкрытым пісьмом, на якое адмірал Кэрк шырака адказаў 16 чэрвеня сёлета.

Пісьмо расейцаў мае на мэце перакацаць Амэрыканскі Камітэт, што прыняцьце праграмы разьдзелу расейскай імпэрыі на нацыянальныя незалежныя дзяржавы створыць для заходніх саюзьнікаў «воўчую яму, дзе напрасна пагінуць мільёны іхных сыноў», і што адзіным правільным і для ўсіх «народаў Расеі» карысным разьвязаньнем гэтае праблемы ёсьць — адзіная непадзельная Расея. Пісьмо гэтае ў сваей аргумэнтацыі не зьяўляецца нічым новым. А калі чым і розьніцца ад ведамай аргумэнтацы ірасейскіх імпэрыялістых аб канечнасьці захаваньня «единой и неделимой», дык хіба яшчэ большым залганьнем і яшчэ больш нахабным перакручваньнем фактаў шыварат на выварат. Лішнім было-б наагул зьвяртаць увагу на гэтае пісьмо. Але пасколькі адмірал Кэрк уважаў за патрэбнае й для свайго аўтарытэту й высокага становішча за адпаведнае адказваць на недарэчныя й непаважныя нябыліцы расейскіх «единонеделимцев», падыймаючы гэтым іхны аўтарытэт і значэньне, дык і нам, скромным людзям, няхай будзе дазволена трохі задзержыцца над расейскімі «рэвэляцыямі». Ніжэйшых нашых заўвагаў мы аднак не разглядаем, як дыскусыі з расейскімі аўтарамі пісьма, бо нельга дыскутаваць зь людзьмі, якія ў вочы цьвердзяць, што белае ёсьць чорным, а чорнае белым, а разглядаем іх, як адказ адміралу Кэрку й усім тым іншым амэрыканцам, што, падобнымі да ягоных, катэгорыямі думаюць.

### ЛГУЦЬ І НЯ ЧЫРВАНЕЮЦЬ

Якімі-ж аргумэнтамі апэруюць аўтары пісьма адміралу Кэрку? А вось некаторыя зь іх, жыўцом намі ўзятыя зь іхнага пісьма.

**1. «Вам, зразумела, ведама, што ў вапошнюю вайну чырвоная армія й шырокія масы насельніцтва СССР прынялі немцаў, як вызвольнікаў Расеі ад сталінскай дыктатуры, а дзеля гэтага чырвонаармейцы здаваліся сотнямі тысячаў, а насельніцтва радасна вітала нямецкую армію — да таго часу, пакуль ня выясьніліся замыслы Гітлера аб разьдзеле Расеі. Тады чырвоная армія й насельніцтва часова забыліся свае варожасьці да Сталіна й абаранілі радзіму ад варожага находу».**

**2. «Увесь час раздаюцца галасы (часамі адказных дзяржаўных і палітычных дзеячоў) аб неабходнасьці пакончыць ня толькі з сталінскім імпэрыялізмам, але й з старым «расейскім імпэрыялізмам» і раздрабіць Расею на рад незалежных дзяржаваў. Часамі здаецца, што Гітлер і Розэнбэрг ня ўмерлі й што яны прадаўжаюць нашэптываць саюзьнікам антырасейскую палітыку».**

**3. Прыпісванае расейскаму народу імкненьне да сусьветнага панаваньня зьяўляецца такім-жа палітычным хвальшам, як, прыкладам, праслаўлены запавет Пятра Вялікага».**

**4. «Трэба зразумець неабаснаванасьць лёгкадумнага й гістарычна хвальшывага прадстаўленьня разьвіцьця расейскай імпэрыі, як паняволеньне нацыянальных меншыняў і як бесьперапыннае змаганьне народу зь дзяржаўнай уладай за сваю палітычную свабоду».**

**5. «Зьяўляецца абсурдным імкненьне задзіночыць Эўропу й адначасна прабаваць раздрабіць Расею на рад незалежных дзяржаваў».**

**6. «Прыраўніваньне вялікадзяржаўнага разьвіцьця Расеі да сталінскага імпэрыялізму й выплываючая адтуль уяўленая неабходнасьць разьдзелу Расеі на рад нацыянальных дзяржаваў зьяўляецца згубнай для саюзьнікаў дактрынай, ажыцьцяўленьне якой прывяло-б да фанатычнага («ожесточенного») супраціўленьня чырвонай арміі й шырокіх масаў насельніцтва СССР».**

**7. «У савецкім насельніцтве ня існуе ніякіх сур'ёзных нацыянальных розьніцаў, так як ні найбольш шматкольасная нацыянальная група — вялікаросы, ні якія-небудзь другія групы не карыстаюцца ніякімі прывілеямі й жывуць у роўных умовах жыцьця з усім астальным насельніцтвам».**

**8. «Антырасейская прапаганда, якую вядуць некаторыя нацыянальныя арганізацыі заграніцай, не адлюстроўвае запраўднага палажэньня па той бок «зялезнай заслоны». Абяцаньне сэпаратыстых памагчы ваенным апэрацыям саюзьніцкай арміі шляхам арганізацыі паўстаньняў або партызаншчыны ў тылох чырвонай арміі, зьяўляюцца плодам фантазыі. Рэальны факт той, што чырвоная армія й расейскае насельніцтва прынялі-б падобныя дзеяньні сэпаратыстых, як зраду не ў дачыненьні да Сталіна, але ў дачыненьні да Расеі, і задзіночыліся-б вакол чырвонага Крамля супраць сэпаратыстых і саюзьнікаў, што іх паддзержывалі-б».**

**9. «Усякія антырасейскія выступленьні дзяржаўных і палітычных дзеячоў саюзьнікаў даюць бальшавіком усякія аргумэнты для антысаюзьніцкай прапаганды ў СССР і настройваюць патрыятычна настроеную чырвоную армію й насельніцтва супраць саюзьнікаў».**

**10. «Чырвоная армія й насельніцтва толькі тады будуць на баку саюзьнікаў, калі яны цьвёрда будуць перакананыя, што саюзьнікі жадаюць толькі вызваленьня іх ад камуністычнага ярма й тады прадставяць расейскаму народу (толькі расейскаму!? — Я. К.) поўную свабоду самастойна арганізаваць дзяржаўнае, сацыяльнае й эканамічнае жыцьцё на тэрыторыі Расеі, што злажылася гістарычна».**

Мы прывялі даволі вялікую колькасьць цытатаў зь пісьма адміралу Кэрку, каб чытач мог сам пабачыць, якімі «навуковымі» аргумэнтамі апэруе такая «навуковая» арганізацыя, як «Камітэт абароны гсітарычнай праўды аб Расеі», і якія Амэрыканскі Камітэт у васобе ягонага прэзыдэнта прыймае як нешта паважнае й сур'ёзнае. Няма ані месца ані патрэбы тут над імі задзержывацца й даказваць іхны хвальш, які ёсьць на столькі відавочны, што чытач і бяз нашае помачы знойдзе аб'ектыўную ацэну падобных «навуковых» адкрыцьцяў. У нашых папярэдніх артыкулах, друкаваных у «Бацькаўшчыне», мы ўжо ня раз выказвалі ўсю іхную беспадстаўнасьць і сьвядомае хвальшаваньне запраўднасьці, бо ўсе яны зьяўляюцца або яўным лгарствам, — мякчэйшага тэрміну падшукаць нельга — або сьвядомым і нахабным перакручваньнем фактаў і выцягваньнем зь іх такіх вывадаў, якія ў дадзеным выпадку патрэбныя расейскім «адзінанедзялімцам». Калі-б сабраць усю аргумэнтацыю расейскіх імпэрыялістых за канечнасьцю ўтрыманьня адзінай і непадзельнай расейскай імпэрыі, імпэрыялістых тыпу Мельгунова, Керэнскага й салідарыстых з пад знаку «НТС», дык і так не магла-б яна дараўняць яўнай нахабнасьці аўтараў пісьма адміралу Кэрку, хіба што трэба было-б у склад першай успомненай групы ўвесьці ведамага Чухнова.

### ПРАЎДА НАВЫВАРАТ

Памінаючы тады ўсе аргумэнты аўтараў пісьма бязь лішніх камантараў, над адным зь іх уважаем за патрэбнае гэтта коратка задзержыцца не таму, што быццам аргумэнт гэты зьяўляецца нечым новым і арыгінальным, але таму, што мы, у сваім дасюлешнім дэмаскаваньні ўсяго хвальшу расейскае аргумэнтацыі за «единую и неделимую», як сьлед, яго

(Заканчэньне на 2 балоне)

## За стабілізацыю нацыянальнай працы

Калі вялізарная бальшыня нашай палітычнай эміграцыі знаходзілася яшчэ ў лягерах ДП у Нямеччыне, чакаючы на нейкае, больш менш трывалае зырашэньне свайго будучага лёсу, дык і ейная нацыянальная дзейнасьць насіла часовы й прыпадковы характар. Рабілася тое, што ў дадзены мамэнт найбольш патрэбна было рабіць і што ў створаных, ад нас незалежных умовах, можна было рабіць. Аб нейкай сыстэматызацыі, плянаваньні й рацыяналізацыі працы ў залежнасьці ад найбольш важных патрэбаў і ейнае мэтазгоднасьці не магло тады быць і мовы.

Мы гэтым ня хочам сказаць, што ў той час — у пэрыяд лягернага жыцьця нашае эміграцыі — было мала зроблена. Наадварот, зроблена было шмат, а, калі ўзяць пад увагу ненармальныя й цяжкія ўмовы працы ды вельмі малы працэнт сярод нас людзей, што былі прыгатаваныя да накінутай ім дзейнасьці, дык можна сказаць, што агульны білянс нашай палітычнай, нацыянальна-грамадзкай і культурнай дзейнасьці быў навет вельмі вялікі. Тым ня менш факт астаецца фактам, што гэтая дзейнасьць, дзякуючы сваей часовасьці й прыпадковасьці, часта была няпоўнай і аднабокай, бо давала перавагу адным заданьням пры поўным занядбаньні другіх, або, не давёўшы да канца распачатае справы, пераходзіла да заданьняў іншых, каб і гэтых апошніх таксама не закончыць.

Але апошнім часам умовы нашага эміграцыйнага жыцьця грунтоўна зьмяніліся. Нашая эміграцыя, знайшоўшы сабе ў розных краінах вольнага сьвету больш менш сталае прыпынішча й больш менш нармальна ўладзіўшы сваё жыцьцё, у васнаўным устабілізавалася Такі стан, які ёсьць сяньня, ужо бяз большых зьменаў і нечаканасьцяў можа трываць даўжэйшы час, датуль, пакуль новая сусьветная завіруха ня выкаляіць нас — у добрым ці дрэнным кірунку з дасюлешняга жыцьцёвага шляху.

Дык па колькі ўмовы нашага жыцьця ўвайшлі ўжо ў нейкую сталую форму, дык раўналежна з гэтым і нашая нацыянальная дзейнасьць павінна ўвайсьці ў фазу некаторай стабілізацыі. Перш за ўсё тут патрэбнае дакладнае й на далейшую мэту прадугледжанае, разумнае й узалежненае ад найбольш палючых патрэбаў і рэальных магчымасьцяў **плянаваньне.** Гэтае плянаваньне павінна быць падвойнае: з аднаго боку мусіць быць адпаведны распадзел працы й ейнае распляваньне на большы пэрыяд часу ў маштабе агульна эміграцыйным, які абняў-бы нашую эміграцыю ў цэлым сьвеце. Справа зразумелая, што гэтым могуць і павінны заняцца толькі нашыя цэнтральныя арганізацыі: па лініі палітычнай ворганы БНР, а па лініі грамадзкай — Сусьветнае Аб'еднаньне Беларускае Эміграцыі (САБЭ), якое, трэба з сумам прызнацца, да апошняга часу існуе фактычна, а таксама й дзеіць толькі на паперы. У рамах такога агульнаэміграцыйнага расплянаваньня павінна тады плянавацца дзейнасьць у паасобных краінах нашага расьсяленьня, а ў далейшым — у паасобных асяродзьдзях там, дзе такія, як прыкладам у ЗША, існуюць.

Другой, пасьля плянаваньня, найважнейшай перадумовай нашае дзейнасьці павінна быць ейная **сыстэматычнасьць.** Няма патрэбы даказваць, што толькі такая праца можа надзеіцца на адпаведныя вынікі, калі яна будзе весьціся ня прыхапкам і прыпадкова, але сыстэматычна з дня на дзень. Прыпадкова можна весьці толькі працу лёгкую, але праца цяжкая, калі ня будзе праводжаная сыстэматычна, вынікаў ня дасьць ніякіх і ўложаныя ў яе час і энэргія будуць на дарма змарнаваныя. Прыкладам, у нас сяньня гаворыцца аб патрэбе нацыянальна ўсьведамляючай дзейнасьці сярод здэнацыяналізаванай старой беларускай эміграцыі ў ЗША, а таксама ў Канадзе й Аргентыне. Само сабой зразумела, што гэтае заданьне ня лёгкае. Але калі-б нашыя арганізацыі ў гэтых краінах да такой працы аднесьліся з усей сур'ёзнасьцю, расплянавалі яе на даўжэйшы адрэзак часу й

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Дзяржаўны пераварот у Эгіпце.** Пасьля захоп[illegible] ўлады ваеннымі коламі ў Эгіпце на чале зь генэралам Наджыбам, апошні зажадаў ад караля Фарука згоды на абмежаваньне прадугледжаных канстытуцыяй ягоных прарэгатываў: права абвяшчаць вайну, назначаць і звальняць урад і разьвязваць парлямант. Калі кароль Фарук адмовіўся ад гэтага дамаганьня арміі, быў ён змушаны 26 ліпеня да абдыкацыі й апушчэньня Эгіпту. Каралём Эгіпту й Судану быў таго-ж самага дня праклямаваны 6-цімесячны сын караля Фарука Агмэд Фуад. Урад прэм'ер-міністра Алі Магар Пашы асьветчыў, што перабірае на сябе часова каралеўскія прэрагатывы ў імя эгіпскага народу да часу ўтварэньня рэгенцыйнай рады, якая будзе выконваць каралеўскую ўладу, пакуль Агмэд Фуад ня скончыць 17 год. Экскароль Фарук таго-ж самага дня адплыў на собскім яхце ў Гэную, адкуль мае намер выехаць на сталае жыцьцё ў Амэрыку.

**Пазыцыя й пэрскага шаха загрожаная.** Абдыкацыя эгіпскага караля Фарука спрычынілася да ўзмацненьня становішча прэм'ер-міністра Пэрсыі Мосадэка. Акружэньне Мосадэка абвінавачвае двор шаха за ўмешваньне ў палітычныя справы краіны. Правая рука Мосадэка Маккі гаварыў аб прымусовай абдыкацыі караля Фарука славамі, якія пасярэдна адносіліся й да пэрскага шаха, значыцца зьмяшчалі ў сабе выразную пагрозу.

**Плян Шумана ўвайшоў у жыцьцё.** 25 ліпеня ў Парыжы на канфэрэнцыі міністраў замежных справаў Францыі, Заходняй Нямеччыны, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу, якія прыступілі да пляну Шумана й парляманты якіх гэты плян ужо ратыфікавалі, была пакліканая камісыя, што будзе наглядаць за прадукцыяй і разьдзелам 40 мільёнаў тонаў сталі й 230 мільёнаў тонаў вугля, якія прадукуюцца ў год у Заходняй Эўропе. Гэтым самым плян Шумана, які задзіночвае вугальную й сталёвую прамысловасьць Эўропы, увайшоў у жыцьцё.

**Дажджы абмежавалі вайсковую актыўнасьць у Карэі.** Уліўныя дажджы ў Карэі, што ўжо трываюць цэлы тыдзень, поўнасьцю спараліжавалі вайсковую актыўнасьць на фроньце. Паведамленьні гавораць толькі аб лякальных сутычках патрулёў. У сувязі з дрэннай пагодай таксама й лётніцтва абмежавала сваю дзейнасьць. Толькі морскае лётніцтва з авіяносцаў «Прынсэтон» і «Бонгом Рычард» атакавала апошнімі днямі хвабрыкі амуніцыі й адну хвабрыку магнэсу ў Паўночнай Карэі.

**Савeтызацыя Ўсходняй Нямеччыны.** Усходнянямецкі парлямант на надзвычайным паседжаньні правёў зьмену канстытуцыі «нямецкай дэмакратычнай рэспублікі». Новая канстытуцыя прадбачыць разьвязаньне краёвых соймаў (ляндтаг) і ўрадаў. Увесь край будзе падзелены на 217 акругаў. Кажных 15 акругаў будуць тварыць адну вобласьць, якіх у ўсходняй Нямеччыне будзе 14. Згодна новай канстытуцыі «нямецкая дэмакратычная рэспубліка» будзе рэарганізавана паводля ўзору ўсходнаэўрапэйскіх «народных дэмакрацыяў».

**Сьмерць Эвы Пэрон.** 26 ліпеня памерла на рака жонка прэзыдэнта Аргентыны Пэрона Эва Пэрон у веку 33 год. Дзякуючы сваей грамадзкай і харытатыўнай дзейнасьці няма сяньня ў сьвеце другой такой жанчыны, якая цешылася-б бязьмежнай любоўю свайго народу. У сувязі зь ейнай сьмерцю ўрад абвесьціў у цэлым краі 30-цідзённую жалобу, а прафсаюзы загадалі работнікам у знак жалобы два дні ўстрымацца ад працы. Цэнтраля прафсаюзаў прыняла пастанову, якая надае нябожчыцы званьне «мучаніцы працы», а дэлегацыя работнікаў будзе а ўсходзе сонца складаць на ейнай магіле кветкі назаўсёды. У пахаронных урачыстасьцях прынялі ўдзел такія вялізарныя масы людзей, што некалькі асобаў былі заціснутыя на сьмерць, а некалькі тысячаў раненых.

**Заканчэньне сталёвагу страйку ў ЗША.** Пасьля 54 дзён страйк 650,000 работнікаў сталёвай індустрыі ЗША 24 ліпеня закончыўся. Работнікі атрымалі падвышшэньне заработнай платы на 16 цэнтаў у гадзіну, у замен за што прадуцэнтам дазволена павысіць цану сталі на 5,64 даляры за тону. Уважаецца, што зьмяншэньне прадукцыі сталі ў сувязі із страйкам будзе мець адмоўны ўплыў на амэрыканскую гаспадарку на працягу 4—6 месяцаў.

**ЗША супраць дадатковай помачы Францыі.** 29 ліпеня міністэрства замежных справаў ЗША падало да ведама, што амэрыканскі ўрад ня мае магчымасьці задаволіць просьбы Францыі аб павялічэньні вайсковай дапамогі. Паймення, Францыя прасіла павысіць амэрыканскія ваенныя заказы ў Францыі на 440 мільёнаў даляраў. Амэрыка заявіла, што замест 625 мільёнаў даляраў, на якіх ЗША мелі-б у Францыі закупіць ваеннай прадукцыі на працягу трох наступных год, будзе закуплена толькі на 186 міл. даляраў.

**Хваля ўцакачоў у заходні Бэрлін расьце.** У сувязі з шыбкай савeтызацыяй Усходняй Нямеччыны хваля ўцекачоў у заходні Бэрлін павялічваецца з дня на дзень і дасягнула рэкорднай сумы ў панядзелак 28 ліпеня, калі перайшло граніцу заходняга сэктару 1.000 уцекачоў, а ў аўторак 29 ліпеня — 1.100 уцекачоў. У ліпені колькасьць усіх уцекачоў перавысіла 13.000 асобаў.

**За зварот сталёвай індустрыі Вялікабрытаніі ў прыватныя рукі.** Ангельскі ўрад 28 ліпеня падаў да ведама, што яшчэ гэтай восені зложыць у пар[illegible]манце праект закону аб звароце сталёвай індустрыі ў прыватныя рукі, якая, як ведама, папярэднім ляйбарыстаўскім урадам Этлі была нацыяналізаваная.

**Ген. Фліт аб палажэньні на карэйскім фроньце.** Генэрал Фліт, камандуючы 8-ай амэрыканскай арміяй наземных войскаў у Карэі, заявіў 30 ліпеня, што камуністычныя лініі на карэйскім фроньце значна «пацянелі». Камуністыя апошнім часам адцягнулі значную колькасьць сваіх войскаў з фронту. Гэта было вынікам актыўнасьці 8-ай арміі, дзейнасьці артылерыі й помачы з паветра. Кажная камуністычная атака будзе пасьпяхова адбітая — заявіў амэрыканскі генэрал.

**Працоўная служба ў Усходняй Нямеччыне.** Усходнянямецкі ўрад паведаміў 24 ліпеня, што ён уводзіць «Службу працы» з вайсковым вышкаленьнем для хлапцоў і дзяўчатаў у веку 17 год. Пасьля заканчэньня гэтай т. зв. «Службы для Нямеччыны», нямецкая моладзь будзе на працягу паўгода «дабравольна» працаваць на «важных вялікіх пабудовах».

**Пратэст ЗША супраць савецкай кампаніі ненавісьці.** Амбасадар ЗША Кэннан запратаставаў у міністэрстве замежных справаў СССР супраць расклейваных на вуліцах Масквы плякатаў, на якіх савецкія зьнішчальнікі адганяюць варожыя самалёты із знакамі ЗША. З прычыны гэтага плякату амбасадар Кэннан адкінуў запросіны быць прысутным на лётніцкім паказе з нагоды дня савецкай авіяцыі 27 ліпеня.

**Самалёты з атамнымі маторамі.** Амэрыканская камісыя атамнай энэргіі пастанавіла распачаць канструкцыю самалётаў, што будуць лётаць пры помачы атамнай энэргіі. Уладжаньні для выпрабаваньня такіх самалётаў, што будуць каштаваць каля 33 мільёнаў даляраў, будуць пабудаваныя ў мясцовасьці дасьледваньня атамнай зброі ў штаце Айдаго.

**Страх перад «лятаючымі талеркамі».** 29 ліпеня раніцай над Вашынгтонам радарныя прылады зарэгістравалі трэйці выпадак за апошніх 14 дзён паяўленьня 12 «лятаючых аб'ектаў», якіх нельга было зідэнтыфікаваць. Вучоныя падалі розныя праекты аб мерапрыемствах у сувязі з паяўленьнем гэтых таямнічых прадметаў. Робэрт Фарнсворт, прэзыдэнт амэрыканскага таварыства дзеля ракетавых досьледаў, зажадаў ад прэзыдэнта Трумана, каб апошні забараніў абстрэльваць «лятаючыя талеркі», бо можа існаваць небясьпека для ўсяго чалавецтва пры абстрэльваньні «далёка перавышаючых сілаў».

# Літаратурны Дадатак

Л. Юхнавец

## Посьле гутаркі

### (Апавяданьне)

У тым месцы, дзе яны былі й гутарылі, ляжала цяжкая цішыня. Гэтакая цішыня, якая й мусіць быць у запраўднасьці. У ейнай судзары цемрадзь летняга паветра здавалася разьдзялілася на самыя драбнюсенькія пухіркі і сунімна, суладна падымалася ад зямлі ў суздром вышыняў. Але ад згорбленай хаты, дзе яны мелі ў тую ноч прыстанішча, досыць далёка, у заходнім кірунку гарызонт быў ледзь-ледзь зацьмелым. Там ішла бойка. Гарматы мэталічным агнём пражылі долы, калечылі й зьнішчалі ўсё жывое й няжывое, якое трымалася яшчэ з намерам супраціву. А тут, пакуль што, шчасьлівілася ім. Іхную дывізію з поўным вайсковым ладункам адвезьлі далей у глыбіню Смаленшчыны. І спадкаемцам «смалу ліць» успаміналася мінулая слава й адначасна клікалі ізноў агнём і смалой абараняцца ад захопнікаў. Бо-ж знаёмае пачуцьцё перасьцярогі: каб ня згубіць сваю свабоду, бязвольных шлюць абараняць яе!...

... Ад моманту, калі прыйшоў Ладыга, лейтэнант радыёсувязі коннае дывізыі, да капітана другога рангу Асіповіча, прайшло ўжо некалькі гадзін. Ладыга быў вельмі прыстойны з выгляду мужчына, гадоў каля трыццаці, із шэрымі, бадай пулятымі, як гэта кажуць, вачыма, з чорнымі назад прычасанымі валасамі ажно на гладка. Але аблічча, неяк у вадмену суладнасьці чалавечае прыгажосьці, праціналася зьбялеласьцю. І гэты колер, напэўна не адна дзяўчына сказала, папсаваў усю ягоную красу. Сам ён нарадзіўся ў Случчыне, а навет больш таго: у самым горадзе Слуцку.

— Таварыш капітан, але лепш дазвольце называць па сяброўску, як называў калісь дома — Алесям... Усё-такі, дарма што ты перасігнуў праз колькі кубікаў вышэй за мяне, зьяўляешся ўва ўсіх ступенях да мяне сябрам.

І, як быццам не жадаючы гутарыць аб гэтым далей, спытаўся: — Скажы, братка, калі ласка, ці давядзецца ізноў дацеляпацца да радзімых месцаў?... Ня ведаеш напэўна? Ня ведаеш?... Скуль ведаць аб гэтым...

Ён спыніў свой позірк на аблічы капітана і прагна чакаў ад яго адказу.

— Тут, бачыш, такая справа, зямляк, як ужо пацьверджана спрадвеку — ветразі чакаюць доўга, доўга на вецер, але, адпраўляючыся да свайго берагу, заўсёды думаюць: або даімкнуць да яго, або згінуць бясьсьледна ў хвалях акіяну... А наагул, не тапі сябе ў гэткай зьняверцы, бо жонкі ня маеш, дзяцей тым больш, ну бацькі толькі, дык ім бедным заўсёды прыходзіцца на схіле гадоў гэтак. Нічога ня зробіш! Трэба цярпець!...

— Яно бязумоўна так, Алесь. Але каб яно правалілася скрозь зямлі усё! Ты зразумей: я вельмі не паважаю вайны. салдаччыны, што проста, прызнацца табе, пра ўсё разам змагу сказаць самыя паганыя словы... Хоць ты, я толькі дацінаю так, і намеран мне адказаць, што барацьба ёсьць жыцьцё. Дык няпярэймы табе я жадаю па свойму выкласьці значэньне гэтых двух абгрызкаў, якія сваім розумам нацягваю да аксіёмы двух супроцьлеглых, а менавіта: (ты толькі ня сьмейся, бо яно ў запраўднасьці й знаходзіцца ў падобным выяве)... барацьба, братка, гэта падцягваньне да жыцьця, але ня жыцьцё, а сьмерць, нястрымная сьмерць!

Асіповіч амаль усьміхнуўся.

— Ты ўрэшце, Алесь, дарэмна насьміхаешся... Калі застанемся жывымі, я сумысьля прыеду ў Капыль, забяру цябе і на свае сродкі абвязу па ўсім сьвеце з намерам паказаць табе, што значыць цяга да новага...

— Ну й што? Я сам загадзя ведаю, што перада мной будуць гурмы развалінаў, празьмерная колькасьць бязногіх і бязрукіх, што будуць прасіць ахвяраваньняў у паўспраходзячых. Вось па ўсім гэтым я й прачытаю маю цягу да новага жыцьця. А падругое, ці дазволяць нам езьдзіць з табой за мяжой? Такія лятуценьні ты найлепш кінь пад услон ды ідзі спаць...

— О, я ведаю, што гэтакія размовы табе не па сярэдзіне... Але, братка, не сьпяшайся не на сваю ніву!... Наадварот, ты яшчэ будзеш пясьціць прыемнасьць бачыць хоць-бы пень, і будзеш каля яго праходзіць, маўляў, маладуха із сваім каханым каля амвоя, баючыся навет парушыць ягоную цішыню!... Бо я ведаю падобных табе блох: адзін рубель дай лішні, ушчапі адзін трыкутнік болей на каўнер, дык і па ўсім тады — Эва пад печ, а Адам на печ!... Але пачакай, не перашкаджай мне — ты бачыш, я яшчэ не давёў да канца маей думкі... Па ўсіх тваіх развагах я заўважаю ў тваім нутры захопніка, які, як ведама, хоча пакорваць другія народы. Каб зрабіць гэта, ты, бязумоўна цісьнеш свой народ і трымаеш яго пры дамававіннай пілоўцы. А народ, у такім выпадку галодны й змучаны, прагне захопу чужога дабра, спадзяючыся паправіць сваё становішча. Аб собскайжа выгадзе й дабру ён ня будзе думаць, бо гэтага ў яго няма. Ну няма!...

Ладыга ўсхвалявана махнуў рукой у бок Асіповіча, крутнуўся на забруджаным, абтаптаным доўгай дарогай абцасе і падыйшоў да вакна, за якім было надалей суцішна і па-летняму лагодна.

— Слухай, Сяргею, наўпершае — размаўляй трохі цішэй, а ў наступным — навошта табе нэрвавацца ад дурнотаў? Пакідай нэрвы дзеля будучыні, бо ведай: іх давядзецца расходваць дзенебудзь у іншым месцы, дарэчы кажучы, — на фронце, а напасьледак — запамятай, Сяргею: усялякая на першы пагляд ідэя, прабач мне, я жадаю крыху адрынуць ад папярэдняй гутаркі. Адно-ж гэтымі словамі толькі папоўніцца твая развага, а яна вось якая: як я ўжо сказаў, усялякая ідэя ці сацыяльная, ці якая там іншая, ёсьць разбурэньне й разбурэньне ня толькі ўсяго таго, што перад тым даведзена, а наагул разбурэньне, зьнішчэньне й сьмерць — расада сьмерці! Прыемнасьць чалавека ў разбурэньні, Сяргею. Гэтакая прыемнасьць, як малому дзіцяняці загачваць шпаркі бег ручайка, а потым гатку раськідваць і глядзець на шпаркі плын вады, што вырвалася із стрымаў. Але, із свайго боку, прашу мне не перашкодзіць, я мушу сказаць табе і толькі табе... Можа гэта будзе крыху ў паэтычных выразах, Сяргею... але забываюцца прысады і прапалотыя лехі і навет усё, усё, што было дорага, — ідзеш на новы кліч, які разгутатаў увесь народ і ў гэты час адчуваеш страх бойкі, аднак ведаеш, што як тэй двароўцы хочацца пагаўкаць з-пад варот, так табе гэтай бойкі! Можа цябе й дзівіць маё параўнаньне, але ня дзівіся, бо толькі ў змаганьні ажыцьцяўляюцца сьвятыя парывы, якія нарасьлі між пакутаў атожылкамі, а атожыльле ў сваю чаргу жадае собскіх карэньняў. Разумееш?... Кажучы ў лоб — собскага жыцьця!...

— Што за атожыльле? Не разумею!.. Мо' ты пра тыя старыя часы ў Менску? Калі толькі гэта, дык ты, братка, памыляешся...

Ладыга паморшчыўся, падумаў кароткую часіну, глянуў у вочы Алесю, капітану другога рангу, і дадаў: — Ня зьбіраюся сябе называць адросткам. Хутчэй хто-небудзь іншы паходзіць альбо адрос ад маіх каранёў!...

Ладыга хацеў гутарыць далей, але раптоўна, у сулад апошняму гуку, зазьвінеў тэлефонны званок і перарваў ягоную гутарку. Сьпярша думаў чакаць, пакуль кончыць капітан тэлефонную розмову, але, бачучы па выразу ягонага твару, што яна мусіла зацягнуцца, — бяз слоў, махнуў яму рокой і выйшаў да знадворку. Да ранішняга пад'ёму заставалася каля аднае гадзіны. Сон адляцеў і Ладыга вырашыў прайсьціся ўздоўж вуліцы й паглядзець, як трымаюць варту ягоныя салдаты на радыёстанцыі, а разам з гэтым пераглядзець найнавейшыя тэлеграмы.

Не прайшоў яшчэ паўз колькі хат, як на сустрач яму із двара напаткаўся салдат з абыяк уськіненай стрэльбай. Той, не спадзяваючыся сустрэць афіцэра, ад нечаканасьці разгубіўся, але і з аддачай пашаны не пасьпяшыўся. У цьмяным сьвятле надраньня салдат утаропіўся ў яго вачыма і засьмяяўся: — А-а-а, вашаму зіхаценьню, таварыш лейтэнант, пашана! Як трымаецеся Ладыга? Як?.. Ты, толькі ня дай Бог, не пакарай мяне за неадпаведнасьць перад табой, ды галоўна перад камандзерам!

Салдат яшчэ больш расьсьмяяўся залівістым сьмехам і падыйшоў спазірней да Ладыгі. — Сам бачыш: па рэгляману я дык і ня мушу перад табой згінацца ў сто восемдзесят градусаў, бо маю толькі нейкую вашую брудную гімнасьцёрку, ды дабераную стрэльбу, а ўсё астатняе — маё собскае. А ў барсьнях, паведаміць табе, ляпей адчуваецца ў маршы, чымсьці ў растоптаных чаравіках або ботах. Выпаўзеш сабе ізь мярлогі, накруціш анучак, а потым аборкамі абматаеш і гатова — і мякка, і лёгка.

Ладызе сьпярша жадалася загадаць яму стаць на «сьмірна», але сьцерпна прабачыў і моўкна слухаў свайго земляка.

(Заканчэньне на 4 балоне)

## Новыя вершы Натальлі Арсеньневай

### З цыклю «Яно усьцяж са мной»

#### ПРАДМОВА ДА НЕНАПІСАНАЕ ПАЭМЫ

Злавеснай хмарай апавіў
кон непазьбеглы землі й моры.
Ён весьціць новую вайну,
хай сьвет і зморany, і хворы.

А я ўсё мрою даўнінай,
брысьці із часам не зьбяруся,
вачыма бачу дні, даўно
сатлелыя над Беларусяй.

Мяне прасьледуюць гады,
гады вагню, ахвяр і сьмерці,
Ў душу уеліся, як дым,
ніяк іх з памяці ня сьцерці.

Дарма чакаю я часін
прасяклых радасьцяй прачулай.
Ня можна ў будучыню йсьці,
не разьвітаўшыся зь мінулым.

Яно-ж усьцяж са мной...
ня йдзе
спачыць з палеглымі пад крыжам.
Дык мо' йшчэ раз успомніць зьдзек
тых чорных дзён, каб з думкаў выжыць

чад пажарышчаў, смак крывізі,
і кажны скон, і сполах кажын.
Прадзіўны сплёт найзьлейшых він
і ўзьлётаў духа недасяжных!

Імкні-ж ачысьціць шлях, пяро,
для новых він і ўзьлётаў новых,
сарві іржавую аброць
зь мінулых чынаў, думкаў, словаў.

Відаць, іх, жорсткіх, шмат яшчэ
нам давядзецца вобзем кінуць,
аж маладое руні шчэць
загоны родныя расьсініць,

аж змые доля з нашых губ
астатні сьлед крывавай пены,
аж збудзем мы сваю тугу,
або на сьмех яе разьменім.

Чаго-ж стаіш?
Імкні, пяро,
і ня спыняйся над крыжамі.
Хто іх ня меў,
хто сэрца ў кроў
не разьбіваў, —
ня ўскрэсьне з намі!

#### АЛЯРМ

Зноў загулі сырэны ў голас
прарэзьлівай жудой.
Каб ськівуць з плеч і каркаў сполах
імкне натоўп перад сабой.

Адно жаданьне гоніць статак
мужчын, дзяцей, жанок —
зарыцца, як краты, у сьцяты
марозам ранічным пясок.

А ён — прыняў бы ўсіх ахвоча,
на'т і навек накрыў,
калі-б на сплаканыя вочы
сьмерць рынула згары.

#### ДВАЦЦАЦЬ

Тут рынула сьцяна...
Брук змочаны сьлязьмі
пакрышаных даўно,
ці толькі сяньня шыбаў.
Яшчэ пажарышчы курэюць, не прагнаць
клубка пякучага у горле, і ня змыць
набраклых ран са сьцен сялібаў.

Яшчэ ўсё сьпіць, калі
хто мае, дзе спачыць.
Адно і тут, і там
сьпяшаюцца лапаты
груды пабітай цэглы распыліць:
казалі, сяньня уначы
засыпаныя дваццаць з гэтай хаты.

#### ПЛАЧ

Дзень згас... і чорная паводка
па шыю места заліла.
Плыве віць нанач гнёзды горад
пад бункеры, на змрочны пляц.
Ніхто ня дбае, што над тынам
муроў успыхнуў маладзік.
Ад дзён, калі глядзелі ў сіню, —
мінула вечнасьць,
не гады.
І толькі сполахі вагнішчаў,
што ноч распальваць пачала,
патрапяць раззваніць у цішы
чыйсь нечакана шчыры плач.

#### НА ЭЛЕГІЙНЫ ЛАД

Вартуюць зрэбны змрок
счарнелыя руіны —
мінулых, жорсткіх дзён
нязжатае дабро,
хай нічыя рука
ня ймкне разблытваць сіню,
у попеле шукаць
прысыпаных імён.
Няма-ж каму гады
губляць на папялішчах:
бурлее, круціць вір
жыцьця, ўсьцяж малады,
нясыты навіны,
што успаміны нішчыць,
што песьнямі зьвініць
над сеткай палявін.
Вартуюць цішыню
гурты руінаў чорных,
стаяць, маўляў крыжы
над сотнямі магіл.
Ды жаль на караню
завяў...
і пройдуць спорна
гады ці шмат сьцяжын, —
усё прысыпле пыл.

#### МЕСЯЦ

Разьліў крыху сівога срэбра
на дахі й брукі маладзік,
хай сяньня рэчай непатрэбнай
і зраднай цемру верадзіць.

Валей сядзець у цёмным склепе,
у сьцeню сьценямі блукаць.
Мо' праплыве — і не зачэпіць —
гарой сьмяротная рака?
Мо' не спатрэбіцца сьлязамі
гасіць разьяраны вагонь,
мо' 'шчэ і заўтра дзень над намі
струной нацягнецца тугой?

Ды месяц сьмерці не баіцца,
І не цураецца вагня.
Закуты ў срэбра зброі рыцар —
вартуе места й нас да дня.

#### МАЛАЧАЙ

У вокнах шыб няма.
Даўно няма і даху.
Асколкамі пакрышаны фасад.
Абапал, хай і май,
а дыхаецца пахам
гарэліны,
няўцям, што дзесь — краса,
што дзесь цяпер цьвіце
лільёвы бэз пад хатай
і чыста вымыты буйной жарствой парог...
Парог?
Няма...
гусьцей затое латы,
ды чырваней гарыць сьцяны разьбітай рог...

А на рагу — гульня:
зьбіраючы аскепкі
пакрышанага шкла, каменчыкі, вуглі,
малыя, што па нас
жыцьцё мо' лепей зьлепяць, —
дзятва будуе дом, які не спапяліць.
Спрачаюцца... крычаць
і плешчуць у далоні,
і сьмехам саграюць астыглыя муры, —
зялёны малачай,
што, вырaслы ў сутоньні,
калісь вяснова ў сонцы загарыць!

#### ІМКНІ, ЦЯГНІК

Ізноў паймкнуў цягнік...
У новыя руіны,
што могілкамі мо' ня так даўно...
Няма што ў далані
заціснуць на ўспаміны,
няма чаго, як скарб, схаваць на дно.
Гарыць, як корч, прасьцяг...
Вагонь і кроў на ўзвышшах,
з вагню у полымя ўцякаюць цягнікі
Зялезнай жменяй нас
таксама можа скрышыць
назаўтра сьмерць.
Ну, што-ж...
Імкні, цягнік, імкні!

#### ЛІСТ

Ён ёй прыслаў учора ліст:
— „Капае ўсьцяж...
журба старая.
Адно, што жоўтыя лісты
зьвіняць і кружацца над гаем...
А так... усё, як і было...

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Янка Купала

(Заканчэньне)

яна адразу з запалам сказала: «Да цябе прыйшоў Янка Купала». Гэтыя словы ўразілі й мяне. Я зараз-жа разьвітаўся з прыяцелем і хутка падаўся да хаты на сустрэчу з паэтай, якога я ведаў даўно, але ні разу яшчэ ня бачыў і якога так моцна хацелася пабачыць.

Купала сядзеў за сталом. Згледзеўшы мяне на парозе хаты, ён, не сьпяшаючыся, падняўся зь месца і накіраваўся насустрач мне. Лагодная ўсьмешка, ясны малады твар, вясёлыя сьветлакарыя вочы зь ледзь улоўнай хітравінкай — такім быў у маіх вачох Янка Купала. Такім жыве ён і па сяньняшні дзень у самым запаветным куточку маей памяці. У той час малады паэта, якому ня было яшчэ поўных трыццаці гадоў, ужо быў паэтам багатым. Апроч зборнікаў «Жалейка», «Гусьляр», ён меў ёмкі том вершаў, які быў цалкам падгатаваным да друку, але выйшаў у сьвет у 1913 годзе (мова аб зборніку «Шляхам Жыцьця» — Рэд.). Купала меў у той час і драматычны твор «Паўлінка». Зь вялікім посьпехам ставілася гэтая п'еса на аматарскіх беларускіх сцэнах і ня ўтраціла свае спэцыфічнае асаблівасьці й беларускага калярыту і ў нашыя сяньняшнія дні. Было некалькі сустрэч з Купалам у 1913 і 1914 г.г. улетку, калі я жыў у ваколіцы Вільні.

Вайна 1914-1918 г.г. і падзеі, зьвязаныя зь ёю, разлучылі нас на доўгі час, і нічога пэўнага ня ведалі мы адзін аб другім. Я вярнуўся на Беларусь толькі праз шэсьць гадоў разлукі зь ёю. Адзін час Янка Купала, мабілізаваны ў царскую армію, быў на Куршчыне, дзе жыў і я, але аб тэтым даведаліся мы потым. З 1921 году я асталяваўся ў Менску. Купала прыехаў сюды крыху раней. З гэтага часу ня было амаль ніводнага дня, калі-б мы ня сустракаліся. Мы разам працавалі ў розных установах. а потым ў Акадэміі навук БССР, праўдзейным сябрам якой быў Купала...

. . . . . . . . . . . . . . .

... У сваіх успамінах аб паэце нельга абмінуць нашых сустрэч на яго дачы ў Ляўках на Аршаншчыне. Дача была пабудаваная ў надзвычай прыгожым вугалку на маляўнічай дняпроўскай кручы, на ўскрайку старадаўнага лесу. Купала дужа любіў гэтую мясьціну. Калі я ў пяршыню прыехаў да яго на дачу, ён павёў мяне аглядаць яе ваколіцы і першым чынам — у глыб лесу. Лес часта прасякаўся глыбокімі ярамі. Із схілаў яраў прабіваліся крыштальныя чыстыя крыніцы. Яны сьцякалі на дно яру й утваралі невялікія ручайкі, рухлівыя, гаманкія. Некалькі такіх ручайкоў зьліваліся ў вадзін ручэй, шумны й многаводны. Ён шпарка імкнуўся ў Днепр сярэбранымі пералівамі дробных хваль. Асабліва прыгожы й шырокі краявід расьцілаўся перад вачамі за Дняпром з акна салькі Купалаўскай дачы. Не адну ноч правялі мы ў гэтай сальцы. Мне вельмі добра помняцца летнія раніцы да ўсходу сонца, калі мы, начуючы ў сальцы, прачыналіся й падыходзілі да акна. Нельга было не залюбавацца малюнкам, што ўставаў перад вачамі. Адхонны схіл дняпроўскай кручы, багата зарослы пышнымі кустамі, упіраецца ў бераг Дняпра. Шырокаю бліскучаю істужкаю між паўзьбярэжнай зарасьлі купчастых кустоў павіваецца старадаўні Днепр. Павольна, паважна плыве баржа з чырвоным ліхтаром. Плямка агністага колеру адбіваецца ў Дняпры, ідзе сьледам баржы. Ціха праплываюць рыбацкія лодкі. А воддаль, ніжэй на Дняпры, цьмяна вырысоўваюцца з ранішняга змроку сылуэты будынкаў Копыся.

— Ну, што — прыгожа? — ціха тытае мяне Купала. У голасе яго чутны ноткі радасьці.

Звычайна Купала мала калі пускаўся ў доўгія гутаркі. Ён пераважна абмяжоўваўся кароткімі трапнымі адказамі, заўвагамі. У тоне яго гаворкі нязьменна чуліся дабрадушныя ноткі жарту й гумару. Запаветныя думкі ён таіў у самым сабе, не раськідаўся імі. І толькі вынасіўшы, перажыўшы іх, даваў ім волю ў сваіх творах. Таксама ня любіў ён гаварыць і аб сваіх творчых намерах, плянах. Гэта была асаблівасьць яго творчай індывідуальнасьці. Жыцьцёвыя зьявы й падзеі ён успрыймаў востра і ўмеў адразу бачыць іх сутнасьць і сэнс.

Купалу наведвалі на дачы, апроч мяне, і другія паэты і пісьменьнікі: Броўка, Глебка, Лынькоў. Купала заўсёды быў рады гасьцям і прыймаў іх з усёй шчырасьцю гасьціннага гаспадара.

Апошнюю ноч на Купалаўскай дачы правёў я 26-27 чэрвеня 1941 году, у першыя суровыя дні вайны. 27 чэрвеня паехаў я на ўсход, дзержачы кірунак на Маскву. Праз некалькі дзён вымушаны быў пакінуць свой дачны дом і Купала. Некалькі разоў бачыліся мы ў Маскве. Некалькі дзён жыў Купала ў Клязьме пад Масквою, куды перабраўся я... Маё апошняе спатканьне з Купалам было напрадвесьні 1942 году. Спаткаліся мы ў Казані на сэсыі Акадэміі навук БССР.

Летам, амаль напярэдадні дня нарадэньня паэты, я, жывучы ў Ташкенце, атрымаў трагічную вестку аб нечаканай сьмерці вялікага народнага пясьняра беларускага народу, яго трыбуна й баяна.

У кажнага вялікага паэты ёсьць вершы, якія мы добра ведаем навет напамяць. Але калі яны трапляюцца на вочы, то міма іх ня пройдзеш моўчкі. Такія вершы ў Пушкіна — «Памятнік». «Прощай, свободная стихия», у Лермантова — «Парус», «Тучки небесные», у Некрасава — «Укажи мне такую обитель», у Тараса Шэўчэнкі — «Реве тай стогне Дніпр широкий». Гэткага роду вершы, што так глыбока хвалююць, мы знойдзем і ў Янкі Купалы. Мне хочацца цалкам прывесьці тут адзін такі яго верш:

**ЖНІВО**

Насьпелая постаць шчасьлівых пасеваў
За вёскай, на сонным лясоў рубяжы,
Сьсівелы ўжо колас схінула к мяжы
У сумным шаптаньні: «Дзе, жнеі
мае, вы?»
І жнеі зышліся. — Направа, налева
Кладучы ў снапы каласы-старажы,
Зашасталі глуха сярпы, як нажы,
Пад жніўныя, вечна старыя напевы.

Спагадная, нудная песьня плыве,
Губляючы ў пушчы свае пералівы,
У шэлестах сьпелага коласа нівы.
Плыве гэта песьня ка мне і заве,
І ў сэрцы зьвініць, як каса у траве:
«Ты так-жа, брат, сееш... А дзе тваё
жніва?»

Верш гэты напісаны дзесяткі чатыры гадоў таму назад. у цёмныя царскія часы, і паэта меў тады падставу спытаць самога сябе: «Ты так-жа, брат, сееш, а дзе тваё жніва?»

. . . . . . . . . . . . . . .

Мы адзначаем семдзесяць гадоў з дня нараджэньня Янкі Купалы і дзесяць гадоў з дня яго сьмерці. Ён жыве ў нашым сэрцы і вечна будзе жыць у сэрцы нарадзіўшага яго народу. Жыве і будзе жыць сонечная песьня Янкі Купалы.

**Якуб Колас**

# Апошняя магчымасьць выратаваньня Азыі

**Ад Рэдакцыі:** Ведамы амэрыканскі палітык, былы пасол ЗША ў Савецкім Саюзе Вільямс С. Булліт, які нядаўна аб'ехаў Далёкі Ўсход і пазнаёміўся із сытуацыяй на месцы, абвесьціў пад вышэйшым загалоўкам артыкул, які, з гледзішча на ягоную цікавасьць, ніжэй перадрукоўваем у перакладзе на беларускую мову.

*

Сталін, які ў 1945 годзе меў 200 мільёнаў падданых, цяпер мае пад сваей ўладай 800 мільёнаў. Да свайго ваеннага патанцыялу ён маніцца дадаць яшчэ 700 мільёнаў азыятаў і багатыя рэсурсы краінаў, у якіх яны жывуць. Калі ня ўдасца перашкодзіць ягоным плянам, вольныя нацыі будуць мець справу з 1 500 мільёнамі ворагаў.

У Азыі Захад патрабуе супольнікаў, ахвотных ваяваць. Адзін такі партнэр ужо гатовы стаць да бою, пайменна: кітайскі нацыянальны ўрад на Фармозе. Але ўрад ЗША, пасылаючы сваю собскую моладзь стрымліваць чырвоную агрэсыю ў Азыі, забараняе кітайскаму нацыянальнаму ўраду ўжыць сваю армію супраць камуністых. Гэная армія мае 600 000 жаўнераў, больш чымсьці ЗША і Задзіночаныя Нацыі маюць у Карэі ўсе разам. Яна складаецца зь вялізарнай колькасьці баёвых аддзелаў. Паветраны флёт мае звыш 2 000 лётнікаў; што найменей 1 000 зь іх перайшлі вышкаленьне ў Амэрыцы. Марскі флёт мае 6 добра кіраваных экскортаў зьнішчальнікаў, некалькі дэсантных лодак і шмат малых адзінак.

Калі кітайскі нацыянальны ўрад запрапанаваў выслаць сваю армію ў Карэю, Вашынгтон адхіліў гэтую прапазыцыю. Пазьней прэзыдэнт загадаў 7-му амэрыканскаму флёту ахараняць Фармозу ад нападу камуністых, але разам з гэтым не дазволіў кітайскім нацыяналістым атакаваць камуністых. Два-тры амэрыканскія зьнішчальнікі патрулююць фармоскі праліў, шырынёю ў 120 міляў. Што дня праходзяць гэтым пралівам караблі, вязучы правіянт для кітайскіх камуністых і зброю, што будзе ўжытая ў Карэі супраць амэрыканскіх жаўнераў. Некаторыя з караблёў — польскія камуністычныя, яны вязуць з Гдыні савецкую зброю ў Карэю. Загады з Вашынгтону забараняюць дзеіць кітайскаму нацыянальнаму флёту, які мог-бы спыніць і хоча спыніць гэтыя рух.

Кітайскага жаўнера характарызуе гарачая любоў да бацькаўшчыны. На Фармозе гэтае пачуцьцё выліваецца ў гарачае жаданьне ваяваць супраць кітайскіх камуністых на кантынэнце. Дакуль ёсьць вера ў канчальную перамогу над камуністымі, баявы дух будзе высокі, і фізычны цяжар мясцовых абставінаў будзе ўспрыймацца бескляпотна. На Фармозе ўсе адзінакава ўбогія. Сем мільёнаў цывільнага насельніцтва не маглі-б утрымаць 600-тысячную армію, калі-б хтосьці жыў заможна. Усе, бяз выключэньня, жывуць бедна. Сяржант амэрыканскай арміі на Фармозе дастае плату ў 15 разоў большую за плату поўнага генэрала кітайскай нацыянальнай арміі.

Нацыянальны ўрад на Фармозе — гэта рэжым злодзеннага існаваньня й няслабнучай думкі. Хабарніцтва няма. Чэснасьць прэзыдэнта Чан-Кай-Шэка — паза ўсякім сумлівам. Ён жыве, як асцэта, паддзержываны глыбокай хрысьціянскай верай. У яго адміністрацыі й арміі на кантынэнце было многа падкупных людзей. На Фармозе гэных людзей нямашака.

Найлепшыя галовы й найвыдатнейшыя асабістасьці ўходзяць у склад ураду на Фармозе. Што да прызваітасьці й кампэтэнцыі яны заслугоўваюць на найвышэйшую ацэну. Іх было за мала ў Кітаі, каб стварыць непадкупны ўрад для 450 мільёнаў кітайцаў, здэмаралізаваных інфляцыяй і спусташэньнем краіны 12-цігадовымі нападамі японцаў і камуністых. Але цяпер яны ўпраўна й чэсна кіруюць Фармозай, ня меншай за Галяндыю. Насельніцтва Фармозы (пераважна фармэры цукровых і рыжавых плянтацыяў) выбірае спаміж сябе прадстаўнікоў да гарадзкіх і раённых управаў і высака цэніць сваю нядаўна здабытую свабоду. На востраве абсалютны парадак. Няма ні бандытаў ні жабракоў.

Цені на гэтым спакойным і імпазантным абразе чыста матарыяльнага характару. Армія дрэнна ўзброеная. Фармоза зь яе пераважна сельскагаспадарскаю эканомікаю, ня можа вырабляць самалётаў, гарматаў, ня ў сіле забясьпечыць дэсант. Калі-б армія, паветраны й морскі флёт былі пакліканыя да змаганьня супраць комуністых, ЗША мусяць абясьпечыць іх ува ўсё патрэбнае.

Урад ЗША абяцаў прывесьці дастатковую колькасьць вайсковага ўстаткаваньня да 1 ліпеня 1951 году. На 1 студзеня 1952 году толькі тры працэнты прыабяцаных матарыялаў былі надасланыя, а з матарыялаў, што іх ЗША мелі прывесьці да 1 ліпеня 1952 году, яшчэ нічога ня прыбыло.

Кітайскія нацыяналістыя прывыклі да таго, што ЗША не датрымліваюць сваіх абяцанак. Але яны ня трацяць надзеі. Яны верацъ сябром амэрыканскай вайсковай місыі й паслу Карлу Л. Ранкіну. Яны нязвычайна ўдзячныя за 18 мільёнаў даляраў сёлетняй дапамогі. Але гэтага ня досыць. Канечна патрэбныя яшчэ 30 мільёнаў даляраў. Дадатковыя-ж 40 мільёнаў даляраў на нітрагэн і электрацэнтралі многа дапамаглі-б Фармозе мець самастойную эканоміку.

Сталін можа папрабаваць скарыстаць зь недастатковага ўзбраеньня Фармозы й заатакаваць востраў вялікімі сіламі. Але яны сустрэлі-б станоўкі супраціў, а дастатковую колькасьць адзінак 7-га флёту ўзмоцнілі-б магчыма з Карэі сваячасова, каб ператварыць напад на паражэньне. Аднак найшыбчэйшы давоз на Фармозу патрэбнай зброі зрабіў-бы немагчымым усякі напад.

А апрача таго, зброю, патрэбную для абароны, можна выкарыстаць таксама й для нападу. Адпаведнае пастачаньне дэсантнымі лодкамі, самалётамі й зброяю дало-б кітайскім нацыяналістым магчымасьць заатакаць флянг кітайскай ка-

(Заканчэньне на 6 балоне)

**БЕЛАРУСКІЯ ВЕРБЫ НА ВЫСТАЎЦЫ**
Ў НЬЮ ЁРКУ



У канцы месяца красавіка адбылася ў Бруклінскай ІВКА (Зьвяз Маладых Хрысьціянскіх Жанок) выстава красак. Усе гародніцкія клюбы з прадмесьцяў Нью Ёрку выстаўлялі свае найхарошшыя імі выгадаваныя краскі. На міжнароднай часьці выставы розныя нацыянальнасьці паказавалі свае наймілыпыя краскі і іх ролю ў народным мастацтве. Абразок паказуе столік зь Беларусі, накрыты беларускім белым абрусом. На ім ляжыць дзераўляная міска зь яечкамі маляванымі народнымі ўзорамі, далей тканыя паяскі і закладкі да кніжак. Паміж імі ляжаць вялікодныя вербы, такія як робяць у Вільні. Над імі ёсьць вербы, якія робяць у Менску. Над усім расьцьвілыя галінкі яблыны дадавалі століку першай вясновай атмасфэры. Столік быў прадметам агульнага зацікаўленьня, геомэтрычныя ўзоры на ўсіх вырабах зварочавалі ўвагу аглядаючых гасьцей. Выстаўку арганізавала М. Станкевічыха пры дапамозе беларускіх жанчын зь Нью Ёрку, Саўт Рывэр і Стэмфорд.

---

І на гару пашыбавалі.
— Ого, гара, як печ, крутая!
І вось чаму дарожка тая,
Бы шрубка, ўецца па-над бокам:
Узьлезь, папробуй, простым крокам!
Ну, брат, гара аж ногі млеюць. —
Сябры ідуць і весялеюць.
— Ці то яе такая ўрода?
Рукою, мусіць-быць, народу
Яна насыпана спрадвеку...
Ото, мой Божа: чалавеку
Заўсёды мала, не хватае, —
Антось уголас разважае: —
Ці ёсьць канец яго патрэбам?
Чаго няма пад гэтым небам!...
— Не: не здаволіш чалавека,
І будзе вечна ён калека:
яго-нібудзь, а будзе брак,
ко бо створаны ён так!
ардоўскі пан быў — мо' чувалі? —
у ўсе чэрці слугавалі
ўсе выконвалі жаданьні,
І што-ж? шчасьлівы быў? нізваньня!
Ды ўзяць хоць нас: ня тое-ж сама?
І мы, як тая багна-яма,
Ўвесь век варушымся, зьбіраем,
Канца-ж патрэбам тым ня знаем.
Сябры на верх гары ўзьняліся,
Аж упацелі, засапліся,
І ногі іх спыніліс самі.
А слаўны від перад сябрамі
З гары высокай адчыняўся!
Хто відам тым не любаваўся?
Ўнізу гары ляглі прыгожа,
Як-бы разоркі паміж збожжа,
Дарожкі роўныя, крывыя.
Над імі дрэвы маладыя
Ў сваёй пакоячай цішы
Сплялі жывыя салашы.
Агромны горад, цесна зьбіты,
Ўвесь блескам сонейка заліты,
Займаў узгоркі і нізіны;
Дамы стаялі, як віціны,
То ўдоўж, то ўпоперак радамі,
То закрываліся садамі
Або дзе ўзгоркам крутабокім;
А дзе васпанам адзінокім,
Расьцерабіўшы сабе пляц,
Як горды пан, стаяў палац.
Будынкі цесна ў рад стаялі
Як-бы адны другіх трымалі
У часе нейкай небяспекі
І асталіся так навекі.
А між высокіх дамоў-градак,
Свой пэўны маючы парадак,
Біліся вулачкі так-гэтак
Густою тканьню цёмных клетак.
Ўгары, высока над дамамі,
Пазалачонымі крыжамі
Блішчэлі цэрквы і касьцёлы,
Узьняўшыся к небу галавамі,
На сонцы зьзяючы вярхамі;
І гоман іх званоў вясёлы
Ў паветры гуў таемна, злучна
І заміраў дзесь мілагучна.
Налева, між гор крутабокіх,
У берагох сваіх высокіх,
Па камянёх, бы тая зьмейка,
Вілася шумная Вялейка
І, закруціўшыся дугою,
Зьнікала зараз за гарою.
А справа ўніз свабодным махам
Лягла другая рэчка шляхам,
Як-бы сталёвая пружына;
То Вілія, Літвы дзяціна,
Нясласе пышна між абрываў
Бліскучай стужкай гожых зьвіваў,
Як-бы жывое срэбра. Хвалі
На сонцы песьціліcь, дрыжалі.
Так майскім днём дрыжыць лістамі,
Абліты сонейка агнямі,
Зялёны клён і пышна зьзяе,
На сонцы лісьцікі купае.
Па левым беразе ў шнурочак
Зялёных дрэў пралёг радочак,
Як стрэлка роўненька, пад меру,
Як тыя буквы на паперы.
Дамы, каменныя грамады,
Палацы, пышныя пасады,
Крутыя горы з жоўтым скатам,
Пяскамі, глінаю багатым,
Ўвесь правы бераг абступалі,
І адбіваліcь, бы ў люстэрцы,
У рэчцы цені іх дрыжалі.
У Віліі хмурынак перцы,
Што вісьлі белай чарадою
Высока ў небе над зямлёю.
А там, за горадам, так здатна
І так прыгожа, так прыятна
Узгоркі леглі ў сіняй далі;
Па іх адложыстых уклонах
Любоўна ветры па загонах
Жытцо, ярынку чуць гайдалі,
Як нянька добрая ці матка
Ў калысцы гойдае дзіцятка.
Палоскі нівак йшлі абрусам,
Гаі, лясочкі здольным вусам
Ў палёх то тут, то там чарнелі,
Як-бы на сонейку гарэлі.
І ў вабразох тых самавітых
Палёў, задумаю спавітых,
Пачуліcь родныя павевы
І дарагія сэрцу сьпевы
Для мужыкоў, сыноў заўзятых
Палёў, лясоў, лугоў багатых;
Там іх душа і там іх думы,
Ім далей хочацца ад шуму
Траскучых вуліц, перавулкаў,
Ад пылу, смроду, закавулкаў,
А на гары было спакойна.
Чуць далятаў сюды нястройна
Далёкі шум і той зьмякчаўся,
Сюды нейк боязна ўрываўся.
Гара спакойна пазірала,
Маўклівасьць важную хавала,
Як сьветка той вялікай справы,
Што для пустой людзкой забавы,
Ніколі вусн не раскрывае
І моцна тайнасьць ахраняе.
— Ну, што, Антоні: надзівіўся? —
Ад думак Верас абудзіўся: —
Ці не пара-б пасілкавацца,
Бо трубіць чэрава, прызнацца?
— Так, час ісьці, глядзець даволі,
Бо не нагледзішся ніколі.
Сябры назад з гары зьвярнулі,
Шырокім крокам сьціганулі.
— Пастой! а там што? —Там — гармата.
— Чаму-ж няма пры ёй салдата? —
Пытае дзядзька. — Мо' старая,
А мо' фальшывая якая, —
Ня буду спрэчвацца заўзята. —
З такой гаворкай да гарматы
Прышлі яны і важна сталі,
Гармату доўга разглядалі,
Глядзелі з заду і з бакоў,
Аб ёй сказалі колькі слоў.
Калёсы дзядзька разглядае
І бліжай-бліжай падступае,
Хацеў яе яшчэ пагладзіць.
— Ой, не чапай, а то рассадзіць!
Няхай яна, брат, лепей спрахне!
Зачэпіш падлу, ды як гахне!
І вочы высмаліць, і кішкі
Шпурне, глядзі, аж на Лукішкі.
О, зь ёю, брат, такія штукі! —
Спужаўся дзядзька, — борзда рукі
Рвануў назад, як ад гадзюкі, —
Ды так, што Грышка стаў сьмяяцца.
— Хадзем, брат, лепей сілкавацца!

(Далей будзе)

# Апошняя магчымасьць выратаваньня Азыі

(Заканчэньне)

муністычнай арміі ў ейным руху на Індакітай.

Сталін не папярэджвае пра свае ўдары, але ясна, што ён мае на мэце захапіць Індакітай як найхутчэй. Нядаўна ён даручыў кітайскім камуністым пабудаваць чыгунку ад Нанкінгу да граніцы Індакітаю, пабудаваць тры арэадромы й разьмясьціць 250.000 войска ў прыгранічным поясе. Гэтаксама ён калісьці прыгатаўляў напад зь бясьпечнага кітайскага сховішча на Карэю, і гэта дало яму магчымасьць адкінуць армію ЗН ад ракі Ялу да 38-ай паралелі. Некалькі групаў савецкіх зьнішчальнікаў тыпу МІГ-15 зь нядаўна пабудаваных арэадромаў зьнішчылі-б перастарэлы францускі паветраны флёт у Тонкіне. А інвазыя 250.000 кітайскага войска, што, як і ў Карэі, называлася-б «дабраахвотнікамі», лёгка зрабіла-б францускай арміі Дункерк.

Французы ня могуць так узмоцніць сваю армію, каб перамагчы Го-Чы-Міна, хіба што яны прывезьлі-б з Францыі пяць добрых бояздольных дывізыяў. Сяньня гэтыя дывізыі — гэта фігавы лісток, што часткава прыкрывае баявую безбароннасьць Заходняй Эўропы, і францускі ўрад за слабы, каб адважыцца паслаць іх у Індакітай.

Амэрыканскі й брытанскі ўрады згадзіліся памагчы французам і ветнамцам у выпадку нападу на іх кітайскіх камуністых. Амэрыканскія морскія й паветраныя сілы, звычайна, маглі-б ўратаваць сытуацыю. Але-ж было-б неразумным паслаць галоўную амэрыканскую армію ў джунглі, балоты й рыжавыя плянтацыі Індакітаю. Мясцовасьць Індакітаю ідэальна няпрыгодная да застасаваньня амэрыканскіх мэханізаваных сродкаў вайны, як і для здароўя амэрыканскіх жаўнераў.

У сваей краіне добра вышкалены й умела кіраваны ветнамскі ваяк бясспрэчна больш вартасны за белага, і апрача таго, патрабуе ў дзесяць разоў меней пастачальных запасаў, чымсьці амэрыканец. Маладая ветнамская армія абяцае быць добрай, але ей не стае добра вытранаваных ахвіцэраў. Падгатаваньне ахвіцэрскага складу патрабуе часу. Сталін-жа ня мае звычаю адвалакаць з намечанай ахвярай. Вось-жа праблема абароны Індакітаю ня вырашаная.

Сталін пасягае на Індакітай ня толькі таму, што краіна гэтая прадукуе звычайна вельмі шмаг рыжу, але таму, што гэта вароты да Тайлянду (Сыяму) і Маляі. Гэтая апошняя дабывае каля 40% сьветавай прадукцыі цыны й 40% сьветавага вырабу гумы, даючы гэтым брытанцам найболей даляраў. На канцовым пункце Маляі месьціцца стратэгічны Сінгапур. А цераз вузкі праліў ад Сінгапуру — багатая нафтаю неспакойная Інданэзыя.

У джунглях Маляі 5 000 узброеных кітайскіх камуністых - партызанаў нішчаць плянтацыі гумы й робяць удалы супраціў 30-цітысячнаму брытанскаму войску й 10-тысячнай маляйскай паліцыі. На кажнага ўзброенага стрэльбаю кітайскага камуністага ў джунглях ёсьць дзесяць ня ўзброеных, што рвуцца ў бой. Калі-б Сталін прыбліжыўся да іх тэрытарыяльна, захапіўшы Індакітай і вузкі хвост Тайлянду, Маляя ня доўга належыла-б да брытанцаў.

Сталін ахвотна прыбраў-бы да рук Тайлянд за ягоны вугаль, цыну, зялеза, мангам, вольфрам, атымоній і жывое серабро, не гаворачы ўжо пра ягоныя вялізарныя рыжавыя рэсурсы. Таіцяне — шчасьлівы народ і, як пераважная бальшыня шчасьлівых народаў, зьяўляецца народам не ваяўнічым. Яны не змаглі-б адбіць канмуністычны напад.

Сталін можа напасьці на Тайлянд ня зь Індакітаю, але зь Бірмы, — у паўночнай ейнай часьці, як і ў цэнтральнай, ужо й цяпер ёсьць шмат камуністых і варагаў слабкага сацыялістычнага ўраду гэтай краіны. Пяцьдзесят тысячаў кітайскіх камуністычных «дабраахвотнікаў» было-б досыць, каб уладу захапілі камуністыя. Без дапамогі Індыі нельга забясьпечыць сталае абароны Бірмы.

А прэм'ер-міністар Нэру жадае палажыцца на кітайскіх камуністых і трымаць сваю армію сканцэнтраваную супраць Пакістану — на адлегласьці звыш 1 000 міляў. І лэта робіць, не зважаючы на тое, што паўночная правінцыя Індыі Ассам, якая мяжуе зь Бірмай, ужо цяпер зьяўляецца населенай камуністымі. Ён не бярэ пад увагу таго факту, што нядаўныя выбары ў Індыі далі камуністым бальшыню ў сумежнай мясцовасьці Трыпура. Калісьці, калі ўжо будзе позна, Нэру зразумее камуністычную загрозу для Індыі, але сяньня на ягоную дапамогу нельга надзеіцца. Да супрацькамуністычнага аб'еднаньня атсравоў на Заходнім Пацыфіку належаць Філіпіны, Фармоза, Окінава й Японія. Сталіну ня лёгка дастаўляць зброю камуністычным сілам на астравох. Амэрыканскі флёт сільны й апэратыўны. Але ўсё-ж такі на Філіпінах, за якіх 20 міляў ад Манілі, камуністымі кіраваныя партызаны грабяць, паляць, забіваюць. А калі йшчэ Японію пазбавіць эканамічнай і вайсковай помачы ЗША, яна хутка апыніцца ў руках камуністых.

Японія ня можа сама сябе абараніць, калі ня мае сыравіны з Азыі й не зьяўляецца зьвязанай з азыяцкімі рынкамі. Прыцягальная сіла сыравіны камуністычнага Кітаю і ягоных рынкаў і цяпер не аслабла.

Пакуль паўдзённы-ўсход Азыі й прылеглыя тэрыторыі астаюцца незалежнымі, Японія можа спадзявацца сяк-так праіснаваць, не гандлюючы зь Кітаем. Але калі камуністыя кантралявалі-б паўдзённы-ўсход і поўдзень Азыі так, як Кітай, Японія будзе змушаная прыняць Сталінскія эканамічныя й палітычныя ўмовы гандлю. Пакуль Кітай у Сталінскіх руках, будзе цяжка ўтрымаць незалежнымі ад яго паўдзённы-ўсход і поўдзень Азыі, а Японія будзе слабым партнэрам.

Дадайма яшчэ, што японская інвазыя на Кітай, Філіпіны й паўдзённа-ўсходнія краіны Азыі выклікала да яе такую ненавісьць у гэтых народаў, што спроба выкарыстаць японскае войска супраць камуністых у гэтых краінах прывяло-б да пераходу ўсяго іхнага насяленьня на бок камуністых. Ад Японіі можна ждаць што найболей дапамогі ў вабароне ейных собскіх астравоў.

Дык, хоць як пажадана было-б вольным нацыям знайсьці ў Азыі супольнікаў, што дапамаглі-б ім ўратаваць Азыю ад каманунізму, але цяпер там няма ніякіх баёвых сілаў, апрача кітайскай нацыянальнай арміі на Фармозе. Тысячы кітайскіх партызанаў-нацыяналістых у Кітаі робяць і цяпер камунізму заўзятыя, але бязвыглядны супраціў. Мільёны сялян пабачылі, што іх абдурылі камуністычнымі абяцанкамі. Чырвоны рэжым у Кітаі яшчэ ня зусім усталяваўся, але дайце камуністым быць пры ўладзе яшчэ 5 год у мірных умовах — і яны канчальна апануюць Кітай і падпарадкуюць яго так, як Расею. Сяньня-ж дэсант кітайскіх нацыяналістых Фармозы ў Кітай мог-бы адразу разьвярнуцца ў вельмі паважную апэрацыю.

Каб заваяваць Азыю, Сталін прымусова выкарыстоўвае надсыланыя яму сатэлітнымі дзяржавамі сілы. Каб абараніць Азыю, нашая цяперашняя адміністрацыя ЗША адкідае дапамогу прыяцеляў.

Калі армія Вашынгтона, недакормленая, дрэнна апранутая, кепска ўзброеная, але высокага баёвага духа, стала ў сьценах Вэлі Фордж, Францыя дапамагла ей здабыць вырашальную перамогу. Такі самы незалежны баёвы дух цяпер у войску Фармозы. Пры ўмовах сваячаснай дапамогі ЗША яно можа запабегчы інвазыі Індакітаю, а магчыма й адваяваць незалежнасьць Кітаю.

# Беларусь пад Сталінскім сонцам

На балонах савецкай прэсы часта-густа сустракаецца пісаніна аб тым, што Беларусь з адсталай аграрнай краіны пад савецкай уладай перамянілася ў перадавую індустрыяльную краіну. Там чытаем аб пабудове новых вялізарных хвабрыкаў і заводаў на нашай зямлі. Трэба прызнацца, што ў вапошні час узапраўды паўсталі многія новыя прадпрыемствы. Да іх можна аднесьці такія заводы ў Менску, як трактарны, аўтамабільны, радыёвы й мотавелазавод, пабудаваныя пасьля другой сусьветнай вайны. Здавалася-б, што Беларусь мае ўдоваль машынаў, трактараў, веласапедаў, радыяпрыёмнікаў. Але тая-ж бальшавіцкая прэса хутка адкрывае тайніцы, куды гэтая прадукцыя ідзе. Вось прыклад: **«Аўтамабільны завод упяршыню выпусьціў 25-тонны аўтамабіль-самазвал. Яны адсылаюцца на Волга-Дон, Сталінград, Куйбышэўская ГЭС» («Зьвязда» за 19. 4. 1952).**

Выпусканыя трактары быццам прыгодныя да выкананьня найбольш разнастайных сельска-гаспадарскіх работаў. Але яны ня выкарыстоўваюцца правідлова. **«На дызэльныя трактары новай маркі былі пасаджаныя непадрыхтаваныя трактарыстыя, у выніку чаго многія машыны выйшлі із строю, патрабуючы капітальнага рамонту»** — піша «Зьвязда» за 27. 4. 1952.

Многіх з нас цікавіць, як-жа жывуць работнікі на гэтых прадпрыемствах? Апрача таго, што яны мусяць рабіць амаль штодзённыя мітынгі пратэсту супраць ужываньня амэрыканскімі «агрэсарамі» бактэрыялягічнай зброі ў Карэі, масавага падпісваньня на дзяржаўную пазыку ды выконваньня нормаў што найменей на 170%, — мусяць яшчэ абавязкава наведваць прапагандова-агітацыйныя курсы й даклады. Навет работнікам, якія працуюць у начную зьмену, на перапынках чытаюць даклады аб мудрасьцях Сталіна й ягонай партыі. Аб жыцьцёвых умовах работнікаў раскажа нам сама «Зьвязда» за 24. 4. 1952:

**«У Чырвоным Урочышчы пабудавана некалькі работніцкіх гарадкоў. Работніцкія пасёлкі абсталяваныя вельмі дрэнна. Вось ужо некалькі год ня вырашанае пытаньне вадазабясьпечаньня. Некалькі вадазборных калёнак ня могуць задаволіць жыхароў, тым больш што ў гэтых калёнках адсутнічае вада. Тут няма ні бруку, ні тратуараў, таму вясной і восеньню прайсьці па вуліцах цяжка. Няма каналізацыі й санвузлоў у радзе дамоў у Ўсходнім пасёлку. У інтарнаце №2 ня зьменены ложкі, матрасы, падушкі, бо іх няма дзе купіць. Няма радыяпрыёмнікаў у ленінскім пакоі, інтэрнаты ня маюць люстраў, абажураў, фіранак на вокны. Жыхары інтэрнату, замест шклянак, карыстаюцца банкамі ад канцэрваў».**

Аб такім палажэньні ў работніцкіх інтэрнатах пішацца вельмі часта. Навет у горадзе Менску такое самае становішча. Вось работніцкі інтэрнат «Лёгпромбуда» пры вуліцы Негіна № 7: **«Да гэтага часу работнікі карыстаюцца бляшанымі чайнікамі і такімі-ж кубкамі, пакрытымі іржой. У пакоях няма навет шафаў для адзеньня»** — піша «Зьвязда» за 15. 4. 1952 г.

Якое-ж тады жыцьцё нашага гаротнага земляроба? Зьнішчаныя ў часе вайны вёскі яшчэ не адбудаваныя. **«Асабліва вялікі размах жыльлёвае будаўніцтва набыло сёлета ў Горадзенскім раёне. Зараз будуецца звыш паўтары тысячы новых дамоў, утрая болей, чымсьці ў мінулым годзе»** («Зьвязда» за 11. 6. 1952). Гэта пасьля васьмі год з дня «освобождения». Аб другіх мясцовасьцях Беларусі ні слова, бо там справа прадстаўляецца яшчэ горай. Затое пра калектывізацыю сталінскія пісакі не забываюцца. **«У Дамачоўскім раёне Берасьцейскай акругі закончаная калектывізацыя сельскіх гаспадарак. Праведзена ўзбуйненьне калгасаў»** — піша тая-ж «Зьвязда» за 8. 4. 1952. Пры гэтым савецкая прэса ня ўсілах замаўчаць, што прымусовая калектывізацыя ня прыносіць ніякай карысьці. Калгасьнікі працуюць неахвотна, абы адбыць дзень. **«Так у калгасе імя Сталіна Лоеўскага раёну пасевы падкармліваюцца толькі ля дарог»** («Зьвязда» за 18. 4. 1952). Многія калгасы ня маюць чым угноіваць зямлю, бо **«зімой не хватала саломы для падсьцілкі жывёлы. У хлявох і канюшнях было гразка. Таму ураджай у гэтым калгасе недапушчальна нізкі»** — чытаем у «Зьвязьдзе» за 24. 4. 1952 аб калгасе Чырвоны Кастрычнік Церахоўскага раёну. У калгасах вядзецца разбазарваньне агульнай маемасьці. Так у кладаўшчыка у калгасе **«1 Мая Віцебскага раёну не хваціла 5 тонаў збожжа, рэвізыйная камісыя сьпісала яго на ўсушку»** — падае «Зьвязда» за 25. 4. 1952.

У вапошнія два гады Беларусь сталася базай разводжаньня каўчуканосу. У бальшыні калгасаў Палесься й Піншчыны гэта асноўны від сельскагаспадарскай культуры. Кок-сагыз дае добры ўраджай, але апрацоўка вядзецца ўручную, бо **«сур'ёзныя непаладкі маюць таксама конныя культыватары. Яны стаялі так доўга, пакуль кавалі не ўдасканалілі іх сваімі сіламі»** — зазначае «Зьвязда» ў нумары за 22. 4. 1952. Ня лепш стаіць справа й з дапамогай з боку МТС: **«Так на 22. 4. 1952 у Карэліцкім раёне толькі адзін трактар распачаў працу. Яшчэ не працуе ні адна сеялка»** — падае «Зьвязда».

Вышэй пералічаныя факты кідаюць яснае сьвятло на жыцьцё сялян у савецкім раю. На кажным кроку тарнуецца спаборніцтва й стаханаўшчына. На запрацаваныя дні няма як пражыць, таму працаваць павінны ўсе: малыя і старыя, каб не памерці з голаду. Вось яскравы прыклад «заможнага» калгаснага жыцьця: Калгасьнік Ф. Кавалевіч з калгасу імя Жданава Антапольскага раёну кажа: **«Мне 86 гадоў. Куды-б я быў годны ў такім узросьце ў вадна-асобніцкай гаспадарцы? А ў калгасе для мяне знайшлі карысную работу: даглядаць 40 штук цялят. Мы з жонкай і пасьвім і кормім іх».** Што ўзапраўды калгасьнікі галадаюць, гаворыць наступны прыклад: **«У калгасе 1-га Мая Віцебскага раёну калгасьнік Іваноў самачынна зарэзаў калгаснага барана»** — інфармуе «Зьвязда» за 25. 4. 1952. Нам ведама, што чакае за такі ўчынак паводля савецкіх «дэмакратычных» законаў. Таму калі калгасьнік пайшоў і на гэта, дык напэўна ня з роскашы.

Ня гледзячы на такое мізэрнае матарыяльнае палажэньне ў сябе дома, савецкая прапаганда стараецца даказаць, што ў капіталістычных краінах людзі жывуць яшчэ горай. Аднак усё гэта дае вельмі малы эфэкт. Насельніцтва ня верыць ілжывай прапагандзе сталінскіх агітатараў і ня хоча чытаць іхнай пісаніны, якая кажны дзень крычыць усё аб адным. Таму **«у Мехаўскім раёне ёсьць рад населеных пунктаў, у якіх няма ніводнага падпішчыка на газэты»** («Зьвязда» за 13. 4. 1952). Калі-ж і выпісваюць прэсу, дык толькі прапагандзістыя, якімі насаджаная кажная вёска. **«У вёсцы Жыцяіна Івацэвіцкага раёну налічваецца больш 100 двароў, а падпішчыкаў на газэты налічваецца толькі 4»** — плача «Зьвязда» за 13. 4. 1952.

Каб паказаць усю недарэчнасьць і ілжывасьць бальшавіцкай прапаганды, падаём такі прыклад. У «Зьвязьдзе» за 25 красавіка сёлета на тэйжа самай балонцы падаюцца два паведамленьні: **«Калгасьнікі Маларыцкага раёну, не чакаючы на пасьпяваньне глебы, арганізавана выйшлі ў поле».** А трохі ніжэй: **«Калгасы раёну на 23 красавіка выканалі плян сяўбы каласавых культур на 100,6%.**

Такіх прыкладаў можна прывесьці нязьлічоную колькасьць. Усе яны гавораць аб той праўдзе, якую так стараюцца сілаю ўбіць у галовы працоўных. Таму, уважліва чытаючы савецкую прэсу, выходзіць на яў тое, што так старанна намагаецца савецкая прапаганда скрыць процантамі.

**А. Шацько**

# «Лятаючыя талеркі»

Нядаўна мінула роўна пяць год ад таго часу, калі публічная апінія сьвету пачала займацца таямнічым зьявішчам, агульна званым «лятаючымі талеркамі». Падобныя зьявішчы людзі заўважвалі праўдападобна ўжо 50 або навет 100 год таму назад, але ўласьцівая гісторыя «лятаючых талерак» пачынаецца толькі 27 чэрвеня 1947 году.

У гэты дзень амэрыканскі камэрсант Кэннэт Арнольд пералятаў на сваім собскім самалёце горны шчыт Маўнт Райніер у штаце Вашынгтон, у заходняй часьці ЗША. Раптам ён убачыў дзевяць круглых і плоскіх прадметаў, што ляцелі на значнай адлегласьці ад яго паміж горамі й хмарамі із шыбкасьцю прыблізна 1.000 кілямэтраў на гадзіну. З гэтага часу й вядуцца больш менш сыстэматычныя спасьцярогі й досьледы над «лятаючымі талеркамі», або, як іх назвалі амэрыканцы, а за імі й немцы, «лятаючымі сподкамі».

Толькі на працягу другой палавіны 1947 году іх быццам у 86 выпадках абсэрвавалі на тэрыторыі краіны амэрыканскія лётнікі, вучоныя, мэтэаралёгі, апэратары радарных уладжаньняў і навет прыватныя людзі.

Паведамленьні аб «лятаючых талерках» прадаўжалі надходзіць. Іх ужо «бачылі» й у розных краінах Эўропы, і ў Афрыцы, і ў Аўстраліі, і навет у Арктыцы. Аб «лятаючых талерках» рапартавалі сьвету японцы й індусы, іх быццам бачылі навет у Савецкім Саюзе. А адна гішпанская газэта надумалася навет устанавіць, адкуль яны паяўляюцца: іх, паводля газэты, пускае на запалоханьне сьвету… Гітлер, які сядзіць дзесьці ў падножжа Гімаляйскіх гораў.

У 1949 годзе, пасьля двухлетняй працы, спэцыяльная дасьледавальная арганізацыя «Градж-Прожэкт» апублікавала вынікі сваіх досьледаў. Яна праверыла 374 рапарты й устанавіла, што 38% із заўважаных «лятаючых талерак» былі ўзапраўднасьці нябесныя целы, 13% — паветранымі балёнамі, 22% — птушкамі й самалётамі, 2% — кузуркамі(!) і 10% — проста плодам фантазыі. Аднак для 63 найбольш загадковых выпадкаў камісыя не знайшла задавальняючага аб'ясьненьня.

А сярод нявыясьненых фактаў быў, прыкладам, наступны:

7-га студзеня 1948 году амэрыканскі лётнік капітан Томас Ф. Мэнтэль, адбываючы палёт у вучэбным самалёце П-51, заўважыў на пэўнай адлегласьці ад сябе «лятаючую талерку», што непарушна вісела ў паветры. Калі Мэнтэль захацеў да яе прыбліжыцца, «талерка» пачала ад яго аддаляцца зь вялікай шыбкасьцю. Капітан пастанавіў ляцець за ей. Ён паведаміў аб гэтым па радыё на зямлю і на працягу некаторага часу падтрымліваў радыясувязь, паведамляючы аб ходзе «паляваньня» за «лятаючай талеркай». Потым раптам замоўк. На наступны дзень ягоны труп і астаткі згарэўшага самалёту былі знойдзены ў раёне Гудмэн Фільда.

Хтосьці зьвярнуў увагу, што бальшыня «лятаючых талерак» была заўважаная над тымі раёнамі й месцамі, дзе знаходзяцца прадпрыемствы атамнай прамысловасьці. Зразумела, што гэта безадкладна выклікала хваляваньне ў шырокіх колах насельніцтва. Адразу зрадзілася здагадка, што «лятаючыя талеркі» — гэта спосаб савецкага шпіянажу. Але гэтаму можна запярэчыць, бо, па папершае, абсэрвацыя зь вялікай вышыні саветам не магла-б даць ніякіх цэнных вестак, а, з другога боку, маючы новае й нікому ня вядомае аружжа ў форме «лятаючых талерак», не захацелі-б выдаваць свайго сакрэту толькі дзеля таго, каб паглядзець з паветра на амэрыканскія прадпрыемствы.

Генэрал Вандэнбэрг нядаўна заявіў карэспандэнту амэрыканскага журналу: «Люк»: «Ваенна-паветраныя сілы ЗША цікавяцца ўсім, што дзеіцца ў паветры. Апошняе ўключае таксама й паветраны фаномэн, агульнаведамы, як «лятаючыя талеркі».

Апошнімі тыднямі амэрыканская прэса паведаміла аб тэорыі ведамага астрафізыка др. Дональда Мэнцэля з Гарвардзкага ўнівэрсытэту, які на радзе экспэрымэнтаў патрапіў даказаць, што пры некаторых атмасфэрычных умовах у паветры могуць выступаць сьветлавыя міражы, якія сваім выглядам прыпамінаюць «лятаючыя талеркі». Такім чынам гэтае зьявішча было-б ня чым іншым, як звычайным аптычным зманам.

Уся гэтая тэорыя, незалежна ад таго, ці яна выдаецца праўдападобнай ці непраўдападобнай, у вадным пункце зьяўляецца хвальшывай: да гэтага часу нічога аканчальнага не даказана ў справе «лятаючых талерак». Тэорыя Мэнцэля толькі агульна магла падзеіць на перапалоханыя галовы, але ей нельга вытлумачыць усіх зьявішчаў, што былі рознымі людзьмі заабсэрваваныя.

Сказаць нешта больш менш пэўнае аб «лятаючых талерках» можна аднак будзе толькі тады, калі яны будуць дасьледваныя пры помачы спэцыяльных мадэрных інструмэнтаў. Дасюль усе абсэрвацыі праводзіліся голым няўзброеным вокам, а таму вельмі магчымыя памылкі, асабліва што датычыцца вышыні палёту «лятаючых талерак», іхнай вялічыні, шыбкасьці, матарыялу, зь якога яны збудаваныя, як і спосабу іхнае будовы.

Гэты факт прымусіў начальніка генэральнага штабу авіяцыі ЗША генэрала Вандэнбэрга узноў стварыць асобную камісыю, якая занялася-б дакладным расьсьледваньнем усіх фактаў, зьвязаных зь «лятаючымі талеркамі». У сяньняшні мамэнт пры ўнівэрсытэце ў Лёс Анджэлес канструуецца спэцыяльная фотокамера для фатаграфаваньня аддаленых целаў, што лятуць зь вялізарнай шыбкасьцю. Фатаграфіі-ж, якія ў розны час паяўляліся ў прэсе й павінны былі прадстаўляць «лятаючыя талеркі», падчас праверкі ўсе бяз выключэньня аказаліся фальсыфікатамі. Найбольш «слаўная» зь іх аказалася ня чым іншым, як фатаграфіяй пары векаў ад жалезных цыстэрнаў да збору сьмецьця, падкінутых у паветра і сфатаграфаваных.

Такім чынам толькі ад гэтай новай спэцыяльнай камісыі, пакліканай ген. Вандэнбэргам, якая мае прыступіць да досьледаў пры помачы спэцыяльна сканструаваных апаратаў і застасаваць пры гэтым сьціслую навуковую мэтоду, можна спадзявацца ў недалёкай будучыні больш менш дакладнага выясьненьня гэтага таямнічага зьявішча — «лятаючых талерак».

**Ф. Д.**

## ШУКАЮЦЬ

**Братоў Язэпа й Аляксандра Отулеўскіх,** народжаных у вёсцы Рудніку Карэліцкага раёну Баранавіцкай акругі, падобна пражываючых у Нямеччыне — шукае сястра Аўгеня Галецкая.

Весткі на адрас Адміністрацыі «Бацькаўшчыны».

## Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:**
   Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:**
   **The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:**
   Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Lt Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У З Ш А:**
   Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunswick, N. J. U.S.
5. **У Канадзе:**
   Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:**
   Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:**
   Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Stre East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:**
   Dudzickj Vladimir, Crucesita a San quel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:**
   Mr. Karanieuski Marian, R. N. Z. A. F. Station Taieri. Otago. New Zeeland.

**ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ**

| | |
|---|---|
| 1. ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. Канада | 15 цэнтаў |
| 3. Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. Францыя | 40 франкаў |
| 5 Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. Бэльгія | 5 франкаў |

Ува усіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**

Paul Urban
**19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**